**УВАГА! Ідзе падпіска на "ГС" на першае паўгоддзе 1999 года.**



# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе.*
*Выходзіць з 1997 года.*

№ 49 (78). Слонім. 3 — 9 снежня 1998 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік Кошт свабодны

# НЕПЕДАГАГІЧНАЯ ГІСТОРЫЯ

**Гісторыя, аб якой пойдзе размова, адбылася ў СШ №8. Сутнасць яе заключаецца ў тым, што 19 кастрычніка 1998 года ў аднной настаўніцы школы знік кашалёк з грашыма, якія яна забылася на крэсле ў настаўніцкай. Як высветлілася пазней, грошай у кашальку было ўсяго 30 тысяч рублёў. Тым не менш, назаўтра з раніцы ў школе пачаліся пошукі злодзея. Пра тое, як яны праводзіліся і чым закончыліся, у сваім пісьме ў рэдакцыю паведаміла былая прыбіральшчыца СШ №8 Аксана Пусташылава. Дырэктар гэтай школы Алена Хіхол, падчас гутаркі з карэспандэнтам "ГС", факты, выкладзеныя ў пісьме, цалкам пацвердзіла.**

***(Працяг на 2 стр.)***

## ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

**Мусім вам паведаміць, што ў снежні, пачынаючы з гэтага нумара, "Газета Слонімская" у розніцу часова будзе прадавацца ў абмежаванай колькасці. Скарацiць тыраж мы вымушаны, каб зменшыць выдаткі, якія ў нас узраслі на прычыне высокага кошту на газетную паперу.**

**Але, нягледзячы ні на што, газета будзе выходзіць. Вядома, у першую чаргу яе будуць атрымліваць нашы падпісчыкі. Таму, шаноўныя чытачы, каб вы пастаянна мелі свежы нумар газеты, мы раім вам на яе сёння падпісацца. Такім чынам, вы заўсёды будзеце з "Газетай Слонімскай".**

**Акрамя жыхароў нашага горада і раёна, на 1999 год на "ГС" могуць падпісацца жыхары Зэльвенскага, Мастоўскага і Дзятлаўскага раёнаў. А гэта значыць, што ў кожным нумары мы будзем асвятляць і жыццё вышэй названых рэгіёнаў.**

**"Газета Слонімская" па-ранейшаму будзе вашым дарадчыкам, субяседнікам і інфарматарам. Спяшайцеся выпісаць нашу газету сёння, бо дзён да канца падпіскі застаецца ўсё менш і менш.**

**Кошт падпіскі:**
**на месяц — 35 т.р.**
**на квартал — 105 т.р.**
**на паўгода — 210 т.р.**

**Наш падпісны індэкс - 64042**

**НАДВОР'Е**



**3 снежня** — малавоблачна, без ападкаў, вецер паўднёва-усходні. Тэмпература паветра ўначы -17, -22°С, месцамі да -25°С, днём — 10-15°С ніжэй нуля.

**НАВІНЫ**

## Серьезное предупреждение

**"Если только хоть одно предприятие не начнет функционировать как следует, на полную мощь обеспечивая производство и реализацию продукции в таких размерах, чтобы все свои расходы и платежи в бюджет обеспечить, этого руководителя предприятия быть в должности не должно.**

Если только этот руководитель соответствующим министром и правительством не будет отстранен от должности, будет отстранен от должности член правительства», — заявил президент Александр Лукашенко на очередном заседании Республиканского штаба по решению экономических проблем.

## Погибнем, как индейцы в Америке

**Если в прошлом году потребление алкоголя на душу населения в Беларуси составило 20 литров, то в 1998 году может превысить 25 литров.**

Это при том, как считают ученые, что уже при душевом потреблении 8 литров в год, начинается необратимый процесс вырождения народа и деградации общества. «Республика Беларусь погибнет не от чернобыльской радиации — народ Беларуси уже погибает, как индейцы в Америке, от алкоголя, табака и других наркотиков», — заметили организаторы международной конференции по проблемам здоровья и трезвости народа, что недавно прошла в Минске.

## Закладки к школьным учебникам

**Необычный «агитационный материал» для школьников начал выпускать Республиканский центр профилактики СПИДа. Это закладки для школьных учебников, содержащие полезную информацию (химические и физические законы, списки литературы и другие данные, относящиеся к темам уроков), а также рисунки и лозунги, обращающие внимание на проблему СПИДа.**

Закладки предназначены для конкретных учебников, которые будут на столе старшеклассников — на каждой из них имеется сообщение об адресате агитации, дабы младшие не увидели изображение презерватива слишком рано. Впрочем, один из вариантов предназначен как раз первоклашкам: на нем отсутствуют атрибуты взрослых отношений, а девиз — «Кожнаму патрэбен добры верны сябар» — по мнению сотрудников центра, не вызовет возражений пуритан. Общий тираж этой просветительной продукции составляет 100 тысяч экземпляров, закладки бесплатно распространяются по школам через органы народного образования.

**БелаПАН**

## Тыдзень па прафілактыцы СНІДу

**Кабінет гігіены Слонімскага медвучылішча, які ўзначальвае Алена Заіка, правёў сярод навучэнцаў тыдзень па прафілактыцы СНІДу.**

У вучылішчы адбыліся гутаркі, класныя гадзіны і выстаўка плакатаў.

**Міхась АКУЛКА**

## Дзень інваліда

**3 снежня адзначаецца Міжнародны дзень інваліда.**

З гэтай нагоды ў чацвер у 11 гадзін у РДК пройдзе ўрачыстае пасяджэнне інвалідаў горада і раёна. Пасля яго заканчэння пачнецца канцэрт з удзелам хору духоўнай семінарыі з Жыровіч, танцавальнай дзіцячай групы з СШ № 5 і паэтаў-інвалідаў.

**Сяргей ЁРШ**

**НАВІНЫ**

## Шлях да стабілізацыі

**Дзеля стабілізацыі мясцовага спажывецкага рынку слонімскія гарадскія ўлады прынялі шэраг мудрых рашэнняў.**

У прыватнасці, яны забаранілі ўпраўленням і аддзелам выканкама і бюджэтным арганізацыям да канца гэтага года купляць аўтамабілі, мэблю, нешта будаваць і рамантаваць. Акрамя таго, строга абавязалі ўсіх да мінімума скараціць камандзіровачныя расходы і строга захоўваць ліміт прабегу службовага транспарту.

**Наталья ФУРСАВА**

## Платны кабінет

**У Слонімскай стаматалагічнай паліклініцы, у адпаведнасці з рашэннем гарадскіх уладаў, пачне працаваць платны кабінет.**

Такім чынам хутка любы жадаючы за адпаведную плату зможа паставіць сабе пломбу па новай тэхналогіі і з якасных матэрыялаў. Аднак, па словах галоўнага ўрача Людмілы Свіб, гэта новаўвядзенне не вырашыць праблему чэргаў у паліклініцы. У платны кабінет пераводзіцца зубны ўрач, які штодзённа абслугоўвае 18 пацыентаў. Цяпер, калі новы від паслуг прадугледжвае больш адной гадзіны на ўстаноўку пломбаў, гэты спецыяліст за працоўны дзень будзе прымаць значна менш людзей. Ну і, вядома, ні ў кожнага слонімца знойдуцца лішнія грошы на аплату лячэння.

**Сяргей ЁРШ**

## Падаражэлі электраэнергія...

**З 20 лістапада павысіліся тарыфы на электраэнергію.**

Гарадское насельніцтва цяпер будзе плаціць 850 рублёў за адну кілават-гадзіну, а сельскае — 570 руб/кВт-гадзіну.

## ...і тэлефонныя размовы

**Абанентная плата за тэлефон у горадзе цяпер складае 31 тысячу рублёў, а ў сельскай мясцовасці — 48 тысяч рублёў.**

Адна мінута размовы па тэлефону для гараджан ужо каштуе 95 рублёў.

Хвіліна размовы па тэлефону ў межах вобласці каштуе 1200 рублёў, а ў межах рэспублікі — 2400.

**Міхась АКУЛКА**

**ЦЫТАТА НУМАРА**

## Наладят ли связь?

"...в республике создан Республиканский штаб при Президенте, цель которого — обеспечение экономической стабильности, преодоление кризисных явлений, которые легли тяжелым бременем на плечи простого народа. А вот у нас в городе на возникающие в этой плоскости вопросы получить ответы не от кого."

Николай Севостьянов, г. Слоним.

*Послесловие редакции*

"... это сообщение из Слонима должно "вертикальщиков" заставить подумать о том, как наладить более действенную связь исполнительных комитетов с простыми людьми".

**("Советская Белоруссия" от 1 декабря 1998 г.)**

**ЗДАРЭННІ**

## Бомбу на вакзале не знайшлі

**У нядзелю, 29 лістапада, на слонімскім вакзале міліцыя і сапёры шукалі бомбу.**



Падставай для гэтага стаў тэлефонны званок у дзяжурную часць міліцыі. Дзесьці ў 14.30 пазваніў невядомы мужчына і сказаў, што вакзал замініраваны. Амаль адразу на месца здарэння выехалі міліцыя, пажарныя, хуткая дапамога і сапёры. У тэрміновым парадку былі эвакуіраваны людзі, якія знаходзіліся ў будынку вакзала, і пачаўся пошук выбуховага прыстасавання. Сапёры агледзелі ўсе памяшканні і гарышча вакзала, але нічога падобнага на бомбу не выявілі. Увесь гэты час (больш трох гадзін) тэрыторыя вакзала была ачэплена. Больш чым на гадзіну быў затрыманы рух цягнікоў, якія праходзяць праз Слонім.

Высветліць асобу тэлефоннага тэрарыста, які званіў з тэлефона-аўтамата, пакуль не ўдалося.

**Анатоль МІРСКІ**

## Запрасіла ў госці і абакрала

**Добра пачаставала сваю знаёмую з хутара Дубіно 36-гадовая сланімчанка К. з вуліцы Я.Купалы.**

Дачакаўшыся, калі госця пасля чарговай чаркі заснула, яна выцягнула з яе сумачкі 40 даляраў і 3 мільёны рублёў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Хату выратавалі

**На Ружанскай вуліцы ў хаце мясцовай жыхаркі К. адбыўся пажар.**

Прычынай загарання стала пакінутая без нагляду печ. На шчасце, ніхто не пацярпеў, хату выратавалі пажарныя. Згарэлі толькі шпалеры і столь.

**Алег ТАЧОНЫ**

**ЗАГЛЯНЕМ НА РЫНОК** *цены (в тыс.руб.)*

| | 18.10 | 29.11 | | 18.10 | 29.11 |
|---|---|---|---|---|---|
| лимоны | - | 220 | свинина | 100-170 | 130-230 |
| мандарины | - | 220 | говядина | 90-150 | 110-180 |
| грейпфрут | - | 220 | баранина | 130-150 | 130-170 |
| морковь | 10-12 | 10-12 | телятина | 100-160 | 120-190 |
| чеснок | 60-70 | 200 | сало | 150-180 | 200 |
| картофель | 8-10 | 10 | молоко | 10 | 12-14 |
| лук | 30 | 70 | яблоки | 10-15 | 35-50 |
| мед нат. (1 кг.) | - | 600 | апельсины | - | 180 |
| | | | бананы | - | 170 |



# НЕПЕДАГАГІЧНАЯ ГІСТОРЫЯ

Шукаць кашалёк па чала сама пацярпелая, выклікаўшы ў школу па тэлефоне Аксану Пусташылаву, якая ў той вечар наводзіла парадак у настаўніцкай. Не паспела дзяўчына пераступіць парог, як ёй было пастаўлена пытанне: ці не бачыла яна ўчора кашалёк з грашыма? Аднак Аксана шчыра прызналася, што не бачыла. Настаўніца не паверыла прыбіральшчыцы і павяла яе да завуча школы Людмілы Кірыленка. Намеснік дырэктара задала Аксане тое ж самае пытанне пра кашалёк, адказ быў той жа самы. Потым у кабінет завуча зайшла дырэктар Алена Хіхол і паставіла перад дзяўчынай пытанне рубам:

– Калі ты, Аксана, узяла кашалёк і баішся яго вярнуць у рукі гаспадыні, дык падкінь яго дзе-небудзь у школе на бачным месцы, і ўсё будзе ціха.

Пусташылава ў чарговы раз паведаміла, што яна не бачыла ніякага кашалька. Гэта прызнанне не пераканала дырэктара і яе намесніка.

– Ну што ж, прыйдзецца выклікаць міліцыю з сабакамі, – з жалем паведаміла дырэктар.

Збянтэжанай і перапалоханай Аксане Пусташылавай нічога не заставалася, як настойліва ўспамінаць, хто ў той вечар, калі знік кашалёк, яшчэ быў у памяшканні настаўніцкай. У памяці паўстаў твар адной настаўніцы, якая пазней усіх прынесла ў настаўніцкую класны журнал. Але прозвішча яе яна не ведала.

Далей расследаванне пайшло, як у сапраўдным дэтэктыве. Аксану завялі ў школьны медпункт і пачалі паказваць медыцынскія карткі ўсіх работнікаў школы ў надзеі, што яна па фотаздымку пазнае тую настаўніцу. Невядома, ці фотаздымка не было на медкартцы, ці не пазнала яе дзяўчына, аднак пошук не даў станоўчага выніку. А падазрэнне, што кашалёк украла менавіта Пусташылава, усё больш узрастала.

Дырэктар школы прыняла рашэнне весці і далей расследаванне ўласнымі сіламі і дала каманду сабраць для апазнання ўсіх настаўнікаў, якія ў той дзень працавалі ў першую змену. Хутка ўсе выкладчыкі сядзелі ў пакоі, а Аксана хадзіла сярод іх і ўважліва глядзела ў твар кожнай. Праз некалькі хвілін яна ўсё ж пазнала настаўніцу, што заходзіла ў настаўніцкую апошняй. Але тая выкладчыца пачатковых класаў паведаміла, што таксама не бачыла ў настаўніцкай кашалька.

Урэшце рэшт было прынята рашэнне пра здарэнне паведаміць у міліцыю. Неўзабаве ў школу прыйшоў участковы інспектар міліцыі. Па словах Пусташылавай, ён прапанаваў ёй добраахвотна вярнуць кашалёк. Але і міліцыянеру дзяўчына дала той самы адказ: кашалька не бачыла і не брала.

– У такім разе прыйдзецца прымяніць дэтэктар ілжы, а для гэтага давядзецца ехаць у аддзел міліцыі, – паведаміў участковы.

Невядома, які далейшы ход атрымала б гэта гісторыя, калі б у гэты момант не прыйшла настаўніца фізкультуры і на вачах усіх прысутных не ўручыла пацярпелай той самы злашчасны кашалёк. Высветлілася, што яна ўзяла яго з сабой, каб на наступны дзень аб'явіць аб згубленым кашальку ў настаўніцкай.

Усе стаялі некалькі хвілін моўчкі, нібы ў рот вады набраўшы. Гаспадыня кашалька не вытрымала, яна падышла да Аксаны і папрасіла ў яе прабачэння за ўчыненыя непрыемнасці. Прабачэння ў дзяўчыны папрасіў і ўчастковы інспектар. А вось дырэктар школы і яе намесніца не палічылі неабходным хоць нейкім чынам зглядзіць тыя непрыемнасці і хваляванні, якія прынеслі сваёй падначаленай. Але, як лічыць Аксана Пусташылава, не гэта стала прычынай напісаць пісьмо ў рэдакцыю.

Літаральна на наступны дзень Пусташылавай дамоў патэлефанавала гардэробшчыца і паведаміла, што завуч школы выявіла бруд у пакоях, якія прыбірала Аксана. Тое ж самае заявіла прыбіральшчыцы раніцай і дырэктар, і павяла яе ў адзін з пакояў, каб паказаць неякасную ўборку.

Не бяруся меркаваць аб якасці працы Пусташылавай, але ў той самы дзень дырэктар прапанавала дзяўчыне звольніцца з работы па ўласнаму жаданню. І папярэдзіла, што калі тая гэтага не зробіць, то будзе звольнена "па стацьце". Маладая дзяўчына не вытрымала ціску з боку дырэктара і паклала на стол заяву аб звальненні.

Тут варта адзначыць, што гэтае звальненне з працы супярэчыць нормам працоўнага заканадаўства, і калі б дзяўчына своечасова звярнулася з заявай у суд, то хутчэй за ўсё яна была б аднаўлена на працы.

З тым, што звальненне Аксаны Пусташылавай незаконнае, пагадзілася падчас нашай гутаркі і сама Алена Хіхол. Яна паведаміла, што месца прыбіральшчыцы застаецца вакантным. Аксана Пусташылава і цяпер не працаўладкавалася.

Я запытаў у дзяўчыны, ці згодна яна зноў працаваць у школе, калі б ёй прапанавалі?

– Ні ў якім разе! Як можна працаваць у калектыве, дзе табе не давяраюць і не лічаць за чалавека, – адказала Аксана.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## ВЕСТКІ З ДЗЯТЛАЎШЧЫНЫ

### І мінулае, і сучаснае

**Тры новыя залы адкрыліся нядаўна ў Дзятлаўскім гісторыка-археалагічным музеі.**

У першай зале сабраны матэрыялы, якія расказваюць пра гісторыю Дзятлаўшчыны сярэдніх вякоў, а ў другой прадстаўлена культурная спадчына краю. Тут сабрана багатая калекцыя керамікі мастака Мікалая Несцярэўскага, які жыве ў Мінску, а таксама мясцовых народных майстроў па дрэву. Трэцяя зала прыстасавана для часовых выстаў. Цяпер тут дэманструюцца малюнкі настаўнікаў і вучняў дзятлаўскіх школ. У прыватнасці, прадстаўлены работы Валерыя Грышука, Алены Турчынік, Кацярыны Гурневіч, Андрэя Ушко і іншых.

### Для зручнасці адпачываючых

**Нядаўна пачаў курсіраваць аўтобус з Мінска да санаторыя "Радон", які знаходзіцца ў Дзятлаўскім раёне.**

Раней гэты аўтобус ішоў толькі да Дзятлава і адпачываючым прыходзілася рабіць перасадку, каб трапіць у санаторый.

### Вялікая перамога маленькай скрыпачкі

**На рэспубліканскім конкурсе юных скрыпачоў, які прайшоў у Мінску і быў прысвечаны знакамітаму музыканту Валадарскаму, трэцяе месца заняла вучаніца трэцяга класа Дзятлаўскай музычнай школы Караліна Орсік.**

Дзяўчынка займаецца ў педагога Аксаны Шэінай. Са сталіцы Караліна прывезла грамату і прыз.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## ВЕСТКІ З ЗЭЛЬВЕНШЧЫНЫ

### Ну і норавы

**Днямі да жыхаркі З. вёскі Ляхавічы, што на Зэльвеншчыне, прыехалі ў госці дачка і ўнучка з Ваўкавыскага раёна.**

Ці старая іх дрэнна сустрэла, ці частаванне неспадабалася, але ў выніку атрымалася так, што госці жорстка збілі сваю маці і бабулю.

### Смяротны агонь

**У лістападзе ў Зэльвенскім раёне адбылося пяць пажараў, матэрыяльны ўрон якіх склаў каля 150 мільёнаў рублёў. У агні загінуў адзін чалавек і адзін атрымаў цялесныя пашкоджанні.**

Так, напрыклад, 20 лістапада адбыўся пажар у вёсцы Хамічы, прычына – няспраўнасць дымахода печы. Агнём пашкоджаны жылы дом, загінуў гаспадар дома, 70-гадовы Уладзімір Баглай.

**С.К.**



## НАВІНЫ

### Міліцыянеры спявалі восем гадзін

**Днямі ў Слоніме прайшоў занальны агляд-конкурс мастацкай самадзейнасці супрацоўнікаў Міністэрства ўнутраных спраў Гродзенскай вобласці.**

За перамогу змагаліся сем каманд, якія прадстаўлялі міліцэйскія калектывы з Ваўкавыска, Мастоў, Зэльвы, Слоніма і інш. У выніку, першае месца заняў Ваўкавыскі ГРАУС, Слонімскі аддзел унутраных спраў быў другі. Цікава, што канцэрт-конкурс працягваўся восем (!) гадзін.

**Алег ТАЧОНЫ**

### Регистрация вновь затягивается

**БелаПАН стало известно содержание очередного проекта положения о регистрации субъектов хозяйствования.**

Как и два предыдущих, разработанных налоговыми органами, этот проект предусматривает установление субсидиарной (то есть, дополнительной) ответственности учредителей по обязательствам созданных ими юридических лиц – субъектов хозяйствования. Однако планируется все-таки сохранить принцип ограниченной ответственности для предприятий с иностранными инвестициями, при этом проект не предусматривает аналогичного исключения для открытых акционерных обществ (ОАО).

### "Прекратить грабеж колхозов"

**По степени реформирования села Беларусь находится позади всех стран Центральной и Восточной Европы.**

Об этом, со ссылкой на доклад советника по сельскохозяйственным проектам Всемирного банка Чабо Чаки, было заявлено на международном семинаре, который завершился в Минске 25 ноября. По словам председателя колхоза «Новый свет» Копыльского района (Минская область) Марианна Рубеля, в нынешних белорусских условиях реформирование, как показал опыт, очень опасно для руководителей сельхозпредприятий, причем, эта опасность исходит от государства, которое должно, наконец, «прекратить грабеж колхозов». Выступившие на семинаре ученые, представители министерств и ведомств сошлись во мнении, что дальнейшее продвижение аграрной реформы в Беларуси зависит сегодня не от ученых, а от политической воли властей.

**БелаПАН**

## ФІНАНСЫ

# БАНК ЧАКАЕ ЎКЛАДЧЫКАЎ

**Як ужо пісала "ГС", Слонімскі філіял "Беларусбанка" праводзіць кампенсацыю абясцэненых укладаў і аблігацый мэтавай беспрацэнтнай пазыкі.**

Па словах намесніка дырэктара філіяла банка Васіля Яраша, па стану на 1 снежня пагашана 1234478 аблігацый на суму 1610,7 млн. рублёў. Ён лічыць, што гэта вельмі нізкі паказчык. А прычын таму некалькі. Па-першае, пэўная частка укладчыкаў, наогул, не ведае, што для налічэння кампенсацыі неабходна асабіста звяртацца ў банк. Па-другое, большасць людзей да канца не зразумела механізм кампенсацыі ўкладаў і памылкова лічыць, што можна атрымаць на рукі наяўныя грошы. У сувязі з гэтым Васіль Яраш сказаў, што, згодна зацверджанага дзяржаўнага механізма кампенсацыі абясцэненых укладаў, сродкі налічваюцца толькі для безнаяўных разлікаў. Гэта значыць, што грошы па даручэнню людзей могуць быць пералічаны для аплаты за тавары альбо залічаны на чэкавую кніжку, па якой таксама можна купіць тавары ці аплаціць паслугі.

Кампенсацыя налічваецца на ўсе каштоўныя паперы, аднак выплочвацца яна пакуль будзе толькі пэўнай катэгорыі людзей: асобам, якія дасягнулі ўзросту 75 гадоў, бацькам ваеннаслужачых, загінуўшых пры выкананні службовых абавязкаў, і іх удовам, якія не выйшлі замуж паўторна, асобам, якія маюць ордэны і медалі за самааддананую і бездакорную службу ў гады вайны, а таксама блакаднікам.

Па словах Васіля Яраша, з 1 лютага 1999 года пачнецца налічэнне кампенсацыі па ўкладам "да запатрабавання". А гэта амаль 2/3 усіх укладаў банка. А пакуль што банк працуе толькі па аблігацыях мэтавай беспрацэнтнай пазыкі 1990 года і тэрміновых укладаў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Доллару месяц дали "погулять"

**По решению Нацбанка с 28 ноября 1998 года по 10 января 1999 года обменные пункты Беларуси будут покупать у населения свободно конвертируемую валюту и российские рубли по рыночному курсу.**

«Признание Нацбанком существования «черного», то есть рыночного курса наличной валюты является, пожалуй, единственным достоинством этого документа, – заявил бывший глава Национального банка Беларуси Станислав Богданкевич. – Новое решение никак не повлияет на снижение ажиотажного спроса на валюту, поскольку 95% купленной у населения СКВ и российских рублей банки обязаны продавать Национальному банку и только 5% – населению. Значит, курс по-прежнему будет определять Нацбанк, а коммерческие банки, как и прежде, не смогут конкурировать с «черным» рынком. Тем не менее, я прогнозирую новый расцвет «черного» рынка. Начнется галопирующий рост курса доллара и других валют. Разница между банковскими и рыночными котировками вновь существенно увеличится.

По прогнозам сведующих людей, скоро курс продажи доллара вырастет до 250 тысяч рублей.

**Наталья ФУРСОВА**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39. (017)210-87-17 E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.

Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 2 снежня 1998г. Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 6.000 экз. Заказ №3308



ПОЧТА

## «Хочу быть услышанной...»

Я живу на Слонимщине вот уже 25 лет, но историю города и района знаю плохо. "Газета Слонімская" является в данном случае для меня самоучителем. Поэтому с величайшим интересом читают статьи по истории Слонимщины и многие учащиеся Сеньковщинской школы. Например, в 5 классе, где я преподаю иностранный язык, мы обсуждали эти статьи на классных часах.

Я обожаю читать газеты. Если есть такое слово газетоман, то это обо мне. В свое время я написала статью на эту тему и послала ее в "Слонімскі веснік". Но ее там не напечатали. Тогда я написала ее в "Народную газету" (провела эксперимент), и в "Народной ..." статья была опубликована (!?). Если бы я была журналистом, я написала бы про тоже, про что пишете и вы. У вас это получается просто здорово! Поэтому газета стала "лучом света в темном царстве".

Мне не раз хотелось прислать на ваш суд свои "творения", но после случая со "Слонімскім веснікам" делать этого не стала. Неудобно набиваться.

А пишу я потому, что хочу быть услышанной и понятой. И вовсе не из-за гонораров. "Слонімскі веснік" в свое время дал мне путевку в журналистику. Журналистом я не стала, хотя безумно люблю эту профессию и робкие шаги в ней делаю...

Но любовь к "ГС" победила сейчас мою любовь к "Слонімскаму весніку". Да, в жизни всякое случается.

**С уважением, Л.М.ПРУДНИКОВА, д.Сеньковщина**

## «Горящий» очаг культуры

Почти в каждом своем номере "ГС" поднимает и выносит на суд читателей много актуальных вопросов, касающихся истории нашего города, его настоящего и будущего. Это дает людям возможность не по слухам, а из газеты узнать достоверную информацию.

В одном из номеров "ГС" писала о проблеме книжного магазина, что на Брестской улице. Недавно выяснилось, что с 1 декабря он действительно будет закрыт. Мы, жители города, считаем, что это недопустимо. Ведь книжный магазин является своеобразным очагом культуры. Ведь, несмотря на тяжелое время, души людей тянутся к прекрасному. А задумываются ли руководители, которые решают судьбу магазина, о том, сколько неудобств создается для школьников, их родителей и учителей четырех близлежащих школ? Книжный магазин необходим в таком крупном микрорайоне.

В наше время и так мало радости и приятного, и не стоит создавать людям дополнительные неудобства.

Убедительно просим не закрывать книжный магазин в микрорайоне "Текстильщик".

**С уважением, покупатели, пользующиеся услугами этого магазина: Дереченик Н.А., Ляшевич Т.Д., Савченко С.А., Дубовец Л.А., Рубец И.В., Смирнова Л.И., Величко Л.Р, всего 66 подписей.**

## "Мудрые наследуют славу, а глупые бесславие"

Случайно прочитал в вашей газете статью В.Згомли, а затем его оппонента П.Наумовича по поводу судьбы памятника В.И.Ленина и установления памятника слонимскому старосте Л.Сапеге.

В ужасно мерзопакостное время живем, прямо в каком-то вывернутом наизнанку мире. Вчера еще славим, сегодня с пеной на губах злословим. Сегодня о Ленине говорят по-разному, применяя прямопротивоположные эпитеты: одни — с любовью, другие — безразлично, третьи — с величайшей злобой и ненавистью...

Когда-то в молодости я прочитал слова польского писателя (фамилию, к сожалению, забыл), запомнившиеся мне на всю жизнь: "...не бойся врагов своих, ибо самое страшное, что они могут совершить — это убить тебя! Не бойся друзей своих, ибо самое подлое, что они могут совершить — это предать тебя! Бойся равнодушных, ибо с их молчаливого согласия совершаются все убийства и все предательства на земле...".

Я человек неравнодушный и поэтому сегодня хочу выразить свое отношение в защиту В.И.Ленина.

Мне кажется, что места в городе хватит и для многих других памятников. И почему памятник только Л.Сапеге? Если увековечить в Слониме старост, то из всех я бы выбрал Великого гетмана литовского Михала Казимира Огинского. Ведь именно при правлении этого крупного реформатора и просветителя Слоним получил мощный расцвет. Он на свои средства только в нашем городе построил канал, несколько предприятий, создал театр "Опернхауз", слонимскую капеллу. М.Огинский был прекрасным поэтом, драматургом, композитором и...хозяйственником. А если ставить памятники старостам города, то я бы поставил памятник и Василию Пеленицину. И вообще, нужно оставить памятник Ленину в покое. Это наша история, это наше прошлое.

**Виктор ПЕТРОВ, ул.Синичкина**

ФОТАІМГНЕННЕ



*Попыт на боты і кошыкі не знікае*

ІНФАРМБЮРО

## Можна скардзіцца

***Працую на фабрыцы і атрымліваю нізкую заработную плату. Некалькі месяцаў не маю магчымасці заплаціць за кватэру і камунальныя паслугі. Прыйшла работніца ЖЭС і сказала, што за гэта мяне высяляюць з кватэры, а судовы выканаўца апіша ўсю хатнюю маёмасць. Што мне рабіць?***

**М.К., вул.Брэсцкая**

Высяліць грамадзян за запазычанасць па кватэрплаце ніхто не мае права. Разам з тым, трэба мець на ўвазе: каб спагнаць кватплату з даўжнікоў, ЖЭСы звяртаюцца ў натарыяльную кантору, дзе завяраюць спецыяльныя дакументы аб прымусовым спагнанні запазычанасці. Пасля натарыуса гэтыя дакументы трапляюць у суд — і судовыя выканаўцы пачнуць спаганяць грошы шляхам апісання маёмасці грамадзян. Пры гэтым даюць 7 дзён на тое, каб разлічыцца па запазычанасцях, а беспрацоўным рэкамендуюць працаўладкавацца. Калі ў гэты тэрмін кватэраздымшчык не знойдзе грошы — апісаная маёмасць паступае на продаж праз камесійную краму. Зразумела, што калі ў вас нізкі заробак, якога хапае толькі на сціплае харчаванне, то вы маеце права абскардзіць прэтэнзіі ЖЭС у судзе, што з'яўляецеся неплацежаздольным. Калі суд прызнае, шо вы сапраўды не маеце магчымасці сплаціць кватплату і камунальныя паслугі, то запазычанасць можа пагашацца за кошт дзяржавы.

## Дадатковы водпуск

***Ці маюць права на дадатковы водпуск супрацоўнікі стаматалагічнай паліклінікі?***

**С.І.ГУЛА, урач-стаматолаг, Слонім**

У адпаведнасці з пастановай Дзяржкампрацы РБ №89 ад 29.07.94г. (раздзел XL "Ахова здароўя", падраздзел "Стаматалагічныя паліклінікі, аддзяленні і кабінеты") права на дадатковы водпуск маюць:

1) Зубны ўрач, урач-стаматолаг, урач-стматолаг-артадонт, урач-стаматолаг-артапед — 18 рабочых дзён.

2) Урач-стаматолаг-хірург (праца ў стацыянары) — 12 рабочых дзён. Працяглаcць рабочага дня 6,5 гадзіны.

3) Загадчыкі аддзяленняў, загадчыкі кабінетаў, якія працуюць на амбулаторным прыёме хворых — 18 рабочых дзён.

4) Зубны тэхнік — 12 рабочых дзён.

5) Рабочыя, якія выконваюць ліццё, паліроўку, фармоўку і шліфоўку зубнога матэрыялу ў стаматалагічных лабаторыях (кабінетах) — 12 рабочых дзён.

Дадатковы водпуск за работу ў школьных умовах далучаецца да 12 рабочых дзён асноўнага штогадовага водпуску. (Зацверджана пастановай Мінпрацы №28 ад 20.03.95г.).

## Мытня дазваляе

***Якія існуюць правілы ўвозу і вывазу з тэрыторыі Рэспублікі Беларусь асабістай маёмасці грамадзян?***

**М.ДУНЬКО, вёска Байкі**

У адпаведнасці з дзеючымі заканадаўчымі дакументамі, вываз з Рэспублікі Беларусь замежнай валюты фізічнымі асобамі, якая накіроўваецца ў службовыя ці прыватныя паездкі без прад'яўлення дазваляючых дакументаў можа быць не большым за 500 даляраў ЗША, альбо іншую валюту на гэтую суму па афіцыйнаму курсу Нацбанка РБ на дзень мытнага афармлення дакументаў. А асоба, якая выязджае за мяжу на пастаяннае месца жыхарства — у межах 2000 даляраў ЗША. Вываз з Беларусі плацёжных дакументаў у замежнай валюце (дарожныя чэкі, іменныя чэкі і грашовыя акрэдытывы, пластыкавыя крэдытныя карткі) праводзіцца без абмежаванняў сум. Вываз з Рэспублікі Беларусь фізічнымі асобамі беларускай валюты дазволены ў межах сумы, якая не перавышае на адну асобу 100 МЗП, устаноўленых у краіне, а валюты Расійскай Федэрацыі — у межах сумы, якая не перавышае 500 МЗП, устаноўленай у Расіі. Фізічныя асобы ў Рэспубліку Беларусь могуць увозіць замежную валюту і плацёжныя дакументы без абмежавання. Фізічныя асобы на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь у якасці асабістай маёмасці могуць увозіць бяспошлінна не больш трох літраў алкагольных напіткаў і не больш 600 штук цыгарэт.

Алкагольныя і тытунёвыя вырабы, увезеныя з перавышэннем указаных квот, падлягаюць мытнаму збору.

## Мужчины в футбол играют, а женщины...

***Есть ли в Слониме спортивные секции, которые могли бы посещать женщины?***

**Людмила ИГНАТИК, Слоним**

По словам председателя слонимского спорткомитета Геннадия Вилькицкого, таких секций у нас в городе при спортивных школах нет. Однако женщины могут заниматься спортом по месту работы, при условии, что там действуют оздоровительные кружки и секции.

**Падрыхтаваў Валянцін ЧУРЫЛА, юрыст**



СОВЕТЫ БЫВАЛОГО

## Как определить подделку

Сегодня на всех видах товаров, в том числе и отечественных, присутствует специальная маркировка — штрих-код.

80% от всей продукции, выпускаемой в мире, маркируется именно таким знаком, состоящим из 13 цифр.

Его признаком служат две длинные полосы — в начале кода и в конце. Первые две цифры обозначают страну-изготовителя товара. Следующие пять цифр — наименование товара, его свойства, размеры, массу и цвет. Последняя цифра контрольная. Она используется для проверки правильности считывания штрих-кода сканером.

5 000311 601106 >

А чтобы проверить, подделка перед вами или нет не имея необходимого аппарата, придется произвести следующие арифметические расчеты:

1. Сложите цифры, стоящие на четных местах цифрового кода.

2. Полученную сумму умножьте на 3.

3. Сложите цифры, стоящие на нечетных местах (без последней контрольной цифры).

4. Сложите суммы, полученные в результате второго и третьего действия.

5. От полученной суммы отбросьте десятки.

6. Из числа 10 вычитается цифра, полученная в результате пятого действия. Это и есть контрольная цифра.

7. Если в результате ваших расчетов цифра не совпадает с контрольной, значит товар, приобретенный вами, произведен незаконно.

Для того, чтобы научиться распознавать подделку с первого взгляда, нужно, конечно, потренироваться. А иначе — придется есть, пить и покупать "левый" и далеко некачественный товар.

**Подготовил Тимур ЮРДЕНКОВ**

| Флаг | Страна и виды печатной продукции | Флаг | Страна и виды печатной продукции |
|---|---|---|---|
| 00-09 | США и Канада | 690 | Китай |
| 20-29 | Резерв EAN | 70 | Норвегия |
| 30-37 | Франция | 729 | Израиль |
| 380 | Болгария | 73 | Швеция |
| 383 | Словения | 740-745 | Гватемала, Сальвадор, Гондурас, Никарагуа, Коста-Рика, Панама |
| 385 | Хорватия | | |
| 400-440 | ФРГ | | |
| 460-469 | Россия | 750 | Мексика |
| 471 | Тайвань | 759 | Венесуэла |
| 474 | Эстония | 76 | Швейцария |
| 475 | Латвия | 777 | Боливия |
| 477 | Литва | 770 | Колумбия |
| 480 | Филиппины | 773 | Уругвай |
| 482 | Украина | 775 | Перу |
| 484 | Молдова | 779 | Аргентина |
| 489 | Гонконг | 780 | Чили |
| 45-49 | Япония | 784 | Парагвай |
| 50 | Великобритания | 786 | Эквадор |
| 520 | Греция | 789 | Бразилия |
| 529 | Кипр | 80-83 | Италия |
| 531 | Македония | 84 | Испания |
| 535 | Мальта | 850 | Куба |
| 539 | Ирландия | 858 | Словакия |
| 54 | Бельгия и Люксембург | 859 | Чехия |
| | | 860 | Югославия |
| 560 | Португалия | 869 | Турция |
| 569 | Исландия | 87 | Нидерланды |
| 57 | Дания | 880 | Южная Корея |
| 590 | Польша | 885 | Таиланд |
| 594 | Румыния | 888 | Сингапур |
| 599 | Венгрия | 890 | Индия |
| 600-601 | ЮАР | 899 | Индонезия |
| 611 | Марокко | 90-91 | Австрия |
| 619 | Тунис | 93 | Австралия |
| 64 | Финляндия | 94 | Новая Зеландия |

## НАШ ФОТАКОНКУРС

# "У АБ'ЕКТЫВЕ — ДЗЕЦІ"




Ну, пагуляй жа са мною!

*Фота даслала Наталля ПЯТЛІЦКАЯ*




Студыя высокай моды прадстаўляе...

*Фота даслала Таццяна ГУК*




Дзе ж той Дзед Мароз з падарункам?

*Фота даслаў Мікіта БАРАНОЎСКІ*




З лёгкай парай!

*Фота даслала Алена БЯЛЯК*



## АНЕКДОТЫ

➡ Сидит дома наркоман перед зеркалом и удивляется:

-Тут я, (смотрит в зеркало) и там я ?

Звонок в дверь.

-Кто там?

-Это я.

-Во! И там Я!

➡ В ресторане:

-Официант! Зубочистку

-Занята!!!

➡ В реанимацию привозят раненого с ножом, торчащим между лопатками. Врач спрашивает:

-Больно ?

Раненый:

-Только когда смеюсь.

➡ Встречаются два абитуриента.

-Поступаю в театральный институт.

-Но у тебя же никаких данных.

-А дядя ?!

➡ Молодой парень поступает в ВУЗ. Сдает экзамены по математике. Ему надо нарисовать окружность. Он выходит к доске, берет мел и, не отрывая руки, рисует четкий круг.

-Как вам это удалось без циркуля ?

-А я два года в армии мясорубку крутил.

➡ Молодой человек старался получить освобождение от призыва, ссылаясь на близорукость. Он представил справку от окулиста и даже привел на призывную комиссию свою невесту, чтобы она подтвердила его физический недостаток. Увидев невесту, комиссия тотчас освободила молодого человека от воинской службы по причине его чрезвычайно слабого зрения.

➡ Рядовой пишет письмо матери. «Пища здесь - настоящая отрава, -жалуется он и затем добавляет: -И дают ее очень маленькими порциями.»

➡ Разговор между двумя осужденными:

-Интересно, почему всегда во время вынесения приговора нужно стоять ?

-Потому что после этого нужно долго сидеть !

➡ Едет на телеге мужичок, а приятель ему кричит:

-Чего везешь ?

Тот жестом подзывает приятеля и говорит ему шепотом на ухо:

-Овес.

-А почему шепотом ?

-Чтобы лошадь не услышала.

➡ -Сегодня я видела на пляже твоего начальника. На руке у него висела хорошенькая блондиночка, - сообщает одна секретарша другой.

-А ты что хотела, чтобы у него на руке ведерко с песком висело ? - парировала ей та.

➡ -Папа, а что такое каменный век ?

-Ну... Как бы тебе объяснить, Вовочка ?.. Это - когда все из камня...

-Как ?! И компьютеры ?



**У Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістравалі шлюб:**



**Каліноўскі Сяргей і Жыліч Алена**

**Ягаўдзік Уладзімір і Кулеш Наталля**

**Пятрашка Аляксандр і Дзямянюк Вольга**

**Альшэўскі Андрэй і Прусевіч Таццяна**

**Ваўчуновіч Аляксандр і Якутовіч Іна**

**ШЧАСЦЯ ВАМ!**

Важэйка Дзмітрый, Валадашчук Вікторыя, Кулак Марыя, Зазерскі Дзмітрый, Комар Уладзіслаў, Завялік Кацярына, Жылінская Юлія, Лазко Павел



**КАГО НАМ БУСЕЛ ПРЫНЁС?**

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

| | |
|---|---|
| **Лысуха** Васіль Іванавіч | 1953 г.н. |
| **Панамарэнка** Ганна Якаўлеўна | 1920 г.н. |
| **Баршынаў** Генадзь Васільевіч | 1950 г.н. |
| **Сідорчык** Іван Іванавіч | 1945 г.н. |
| **Давідзюк** Аляксандр Іванавіч | 1918 г.н. |
| **Сільчук** Аляксандр Уладзіміравіч | 1918 г.н. |
| **Скіба** Лявон Юльянавіч | 1945 г.н. |
| **Грачова** Марыя Андрэеўна | 1930 г.н. |
| **Кадыш** Аляксандр Альбертавіч | 1965 г.н. |

✝

Выказваем спачуванне Міхальчэням Наталлі Віктараўне і Івану Чэслававічу ў сувязі са смерцю блізкага чалавека — **Баршынава** Генадзя Васільевіча.

**Калектыў настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры СШ № 8**

✝

Выражаем глубокую человеческую благодарность и признательность коллективу ОАО "СКПФ", коллективу СШ № 8, родителям и учащимся 3 "Г" и 4 "Г" классов СШ № 8, руководству детского сада № 6, воспитателям и родителям группы № 3 детсада № 6, жильцам дома 107/1 Брестской улицы, соседям, друзьям по спорту, всем добрым людям, кто оказал нам материальную и моральную поддержку в похоронах нашего дорогого мужа и отца Виктора **Яковчика**.

**Семья Яковчиков**

✝

Выражаем огромную благодарность Жировичскому техникуму, коллективу работников общественного питания РПС, соседям, друзьям, родственникам, близким и всем добрым людям, принявшим участие в похоронах нашего любимого сына и мужа **Александра Кадыша**. Низкий Вам поклон.

**Семья Кадыш**

## КРОССВОРД

*от Владимира Вашуты*

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ:**

**1**. Горная система в Азии. **4**. Государство в Южной Азии. **7**. Сладкий картофель. **12**. Чемпион XVIII Олимпийских игр в метании молота. **13**. Геодезический инструмент, прибор. **14**. Вулкан на о.Сицилия. **17**. Белорусский архитектор, лауреат Ленинской премии. **19**. Только что выпавший снег. **21**. Богиня победы в древнеримской мифологии. **22**. Человек, знающий много языков. **24**. Одежда древних римлян. **26**. Русский советский поэт. **30**. Река в Карелии. **31**. Толстая книга большого формата. **32**. Зодиакальное созвездие. **38**. Чертеж земной поверхности или звездного неба. **39**. Бразильский танец. **40**. Древнегреческий поэт.

**ПО ВЕРТИКАЛИ:**

**1**. Физический недостаток. **3**. Войсковое подразделение. **4**. Город-порт в Норвегии. **5**. Герой древнегреческой мифологии. **6**. Бывшая союзная республика. **7**. Местный ветер на берегу моря, озера. **9**. Дорога в лесу. **15**. Русская спортивная игра. **16**. Город в Московской области. **17**. Французский танец 16-18 веков. **20**. Мужское имя. **23**. Странствующий богомолец, паломник. **28**. Небольшое лирическое произведение **29**. Столица Турции. **30**. Утолщение щитовидного хряща в виде небольшого выступа на горле. **33**. Порядковое число предмета в ряду других однородных. **34**. Город в Гродненской области. **35**. Общая сумма.

**ПО ДУГАМ**

**2**. Двигатель. **8**. Столица государства в Азии. **10**. Теория ораторского искусства, красноречия. **11**. Религиозный обряд (крещение, причащение). **25**. Возмездие, отмщение (по имени древнегреческой богини возмездия). **27**. Замужняя женщина по отношению к родным ее мужа. **36**. Разведывательный отряд. **37**. Наименование замужней женщины во Франции.

**ПО ОКРУЖНОСТИ** (по часовой стрелке)

**18**. Волшебник, колдун (устар).

### ОТВЕТЫ НА КРОССВОРД (№48)

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ:** **3**. Регент. **5**. Рябина. **9**. Абрикос. **10**. Осьмина. **14**. Опера. **15**. Порох. **17**. Варан. **19**. Браконьер. **22**. Сорго. **25**. Штраф. **28**. Казна. **30**. Квадрат. **31**. Пакгауз. **32**. Тулома. **33**. Скачки.

**ПО ВЕРТИКАЛИ:** **1**. Регата. **2**. Ангара. **4**. Ефремов. **6**. Блиндаж. **7**. Горох. **8**. Устав. **12**. Неологизм. **16**. Округ. **18**. Агент. **20**. "Торнадо". **21**. Камбала. **24**. Океан. **25**. Шакал. **27**. Арктур. **29**. "Казаки".

**ПО ДУГАМ:** **11**. Рабар. **13**. "Театр". **23**. Рабле. **26**. Рынок.

ГУМАРЭСКА

# Цёзкі

Прыехала ў райцэнтр, каб выпісаць дошак: хачу столь у хаце перасласць, бо згніла. Разумныя людзі падказалі да якога начальніка сунуцца. Заняла чаргу, а калі падышоў мой час, пераступіла парог вялізнага, як гумно, кабінета. Воддаль ад дзвярэй, за сталом, застаўленым тэлефонамі, сядзеў чалавек. Ён зашыўся носам у паперы і на мяне не звярнуў ніякай увагі. Начальнік паволі браў трубкі і кідаў туды кароткія злыя словы.

Нарэшце ён адваліўся на спінку крэсла, склаў рукі на круглым жываце і незадаволена буркнуў:

– Ну, з чым прыйшлі?

– Ні з чым, – кажу. – З пустой торбачкай, – і для большай пераканаўчасці патрэсла ёй у паветры.

– Ды я не пра тое, – паморшчыўся ён, як ад камарынага ўкусу.

– А... Дошак прашу выпісаць. Столь у хаце цячэ, – кажу і тапчуся па мяккім дыване, як па моху. – Тут, у райцэнтры, жыве мой зяць Іван Максімавіч Нупрэйчык. Колькі разоў прасіла, каб схадзіў да вас. Дык жа не мае часу...

Хацела сказаць, што не мае часу з-за гарэлкі, але словы заселі ў горле, калі ўбачыла, як раптам пасвятлеў і павесялеў тоўсты твар. Начальнік калабком выкаціўся з-за стала і борздзенька падышоў да мяне. Абедзвюма рукамі ўхапіў маю шурпатую, як тарка, далонь і моцна патрос:

–Ды вы цешча Івана Максімавіча Нупрэйчыка? Чаму ж адразу не сказалі? Праходзьце, калі ласка, сядайце... Вядома ж, Івану Максімавічу няма часу. Ён чалавек заняты.

"Але, – думаю сабе. – З самай раніцы ў краме па гарэлку таўчэцца".

– Дык мог жа пазваніць, – рассыпаўся начальнік.

"А каб па ім ужо званы званілі, – думаю, – колькі ён мне і дачцэ здароўя змарнаваў. А гэты калабок, відаць, недарэмна так ляпеча ды ўвіваецца. Мо зяць яму кватэру рамантаваў? Ён жа, як не п'е, – залаты работнік".

– А як пажывае Іван Максімавіч? – пытае начальнік.

– Добра і не ведаю, мілы чалавек, як ён пажывае, але дачка казала, што аж учарнеў увесь. Цэлымі днямі недзе прападае. Дамоў толькі начаваць прыходзіць. У яго сяброў усюды хапае.

– Што вы кажаце? – ці то здзівіўся, ці то ўзрадаваўся таўсцяк. – Мяне інфармавалі, што яго неўзабаве ў вобласць забяруць.

"А ліха ж мае цёмнае! – думаю. Мо зноў у ЛПП папруць. І што Маня будзе рабіць адна з дзецьмі?". А ў голас кажу:

– На ўсё воля божая і начальства. Можа, і забяруць, ён мне не дакладваў.

– Разумею, разумею, – затрос галавой таўсцяк. А сам зноў сеў за стол, напісаў нейкую паперку і працягвае мне:

– Вось распараджэнне. Ідзіце ў бухгалтэрыю, там выпішуць вам дошкі. Па боскай цане...

– Дзякуй, мілы чалавек. Будзьце здаровенькія, – абрадавалася я, кладучы паперку ў кішэню.

– Перадавайце мае прывітанне Івану Максімавічу, – просіць ён.

– Перадам, – кажу, – як працвярэзіцца, а то дачка казала, што ў запоі. Так што ці прывітанне, ці праклён – для яго ўсё аднолькава.

– Што вы кажаце? – аж прыўзняўся ён у крэсле. – Хіба ваш зяць Іван Максімавіч Нупрэйчык не ў райвыканкаме працуе?

– Дзе там, мілы чалавек. Хто яго туды пусціць? І падлогу падмятаць такому не давераць. Там, пэўна, другі Іван Максімавіч. Цёзка яго, няйначай.

– Дык што ж ты мне, кабета, галаву марочыш?! – злосна зыркнуўшы вачамі, закрычаў таўсцяк.

– А я не марочу. Вы самі, відаць, памыліліся, – кажу, ідучы да парога. – Во, хоць у адным шчасце маю: мой нікчэмны зяць даводзіцца цёзкам шаноўнаму чалавеку...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

ПРЭМ'ЕРА

# САМАЯ "КРЫШТАЛЬНАЯ СНЯЖЫНКА"

У Слонімскім беларускім драмтэатры адбылася прэм'ера новага спектакля для дзяцей "Крыштальная сняжынка".

Спектакль паставіў малады рэжысёр Васіль Сявец. Гэта яго чацвёртая самастойная праца. А п'есу напісаў Віктар Небальсін.





Пра што новая пастаноўка? Пра чарадзейную крыштальную сняжынку, якая дапамагае тым, хто робіць добра, хто не баіцца злых і галодных, хто шчыры і адкрыты душою. У спектаклі пяць дзеючых асоб: Дзед Мароз, Снягурка, Зайка, Воўк і Ліса. Іх ролі выканалі артысты Сяргей Фурса, Наталля Шугай, Уладзімір Навумік і Ірына Яцук. А ролю Снягуркі сыграла маладая артыстка тэатра Кацярына Дзядовіч. Гэта яе дэбют на слонімскай сцэне.

Спектакль "Крыштальная сняжынка" – навагодні падарунак нашым дзецям. У снежні і ў студзені наступнага года гэты спектакль паглядзяць юныя гледачы Слоніма і іншых гарадоў Беларусі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**
**Мікалай СУПРУН (фота)**

НАВІНЫ КНІГАРНІ

## Была такая партыя

**У Мінску выйшла з друку кніга журналіста "ГС" Сяргея Ярша пад назваю "Вяртаньне БНП".**

Кніга гэта незвычайная. Падобнай манаграфіі ў Беларусі яшчэ не было. А прысвечана яна Беларускай Незалежніцкай Партыі (БНП).



БНП была створана ў Вільні ў 1939 годзе. Яна змагалася за вольную і незалежную Беларусь. Многія яе кіраўнікі і сябры загінулі ў сталінскіх лагерах і ў антысавецкай партызанцы.

У сярэдзіне 50-х гадоў Беларуская Незалежніцкая Партыя на эміграцыі ўлілася ў Беларускі Вызвольны Фронт. Але сябры БНП па-ранейшаму засталіся вернымі і аддадзенымі сваёй партыі.

Кніга Сяргея Ярша – своеасаблівы гістарычны даведнік. Аўтар па крупіцы сабраў звесткі пра многіх кіраўнікоў і сяброў БНП, каштоўныя дакументы, лісты, фотаздымкі і ўспаміны. Гэтым самым ён адкрыў яшчэ адну невядомую старонку гісторыі нашай Бацькаўшчыны.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Дзесяць гадоў з "Памяццю"

**Народнаму хору ветэранаў вайны і працы "Памяць", які існуе пры раённым доме культуры, 2 снежня споўнілася дзесяць гадоў.**

Высокае прафесійнае майстэрства хору знайшло прызнанне ў гледачоў і слухачоў Беларусі. Ён неаднаразова станавіўся пераможцам раённых, абласных і рэспубліканскіх конкурсаў і фестываляў. Кіруе хорам Аляксандр Клябанаў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

НАВІНЫ СПОРТУ

## Татарашвілі — у пяцёрцы лепшых

Футбольныя спецыялісты і спартыўныя журналісты Гродзеншчыны вызначылі лепшага футбаліста вобласці 1998 года. Ім стаў форвард "Ліды" Звіяд Бурдзенідзэ.

Грузінскі легіянер вызначыўся ў сёлетнім чэмпіянаце першай лігі не толькі добрай гульнёй, але і выдатнай выніковасцю. Ён забіў 23 галы ў 28 матчах! Спецыялісты лічаць, што, дзякуючы Бурдзенідзэ, лідская каманда вярнулася ў вышэйшую лігу. Другое і трэцяе месцы занялі нападаючыя гродзенскага "Нёмана" Дзмітрый Барысейка і Сяргей Цыбуль. Пятае месца ў форварда "Камунальніка" Георгія Татарашвілі (у мінулым годзе ён быў другім). У дзесятку ўвайшлі таксама слонімцы Аляксей Баль і Анатоль Дзегіль.

**Сяргей ЁРШ**

ГІСТОРЫЯ СЛОНІМСКАГА СПОРТУ

# У МОТАБОЛ ГУЛЯЎ "УСХОД"

**Мотабол прыдумалі французы. Правілы гэтай гульні вельмі падобныя на футбольныя: той жа памер поля, варот, тыя ж вуглавыя і штрафныя ўдары, жоўтыя і чырвоныя карткі. Толькі вось мяч значна большы і цяжэйшы за футбольны, а спартсмены б'юць па ім і ездзяць па полі на матацыклах...**

У 1970-80-я гады ў Слоніме існавала матабольная каманда "Усход". Выступала яна на абласных і рэспубліканскіх спаборніцтвах. Падчас існавання былога Саюза мотабол "апякаў" ДАСААФ. Шмат праблем было ў каманды: не было дзе трэніравацца. Гульні праходзілі на розных палях: у Альбярціне, каля ільнозавода, зрэдку на стадыёне "Юнацтва". "Усход" выязджаў на гульні чэмпіянату Беларусі ў Мінск, Пінск, Наваполацк, Бабруйск, Оршу, Лунінец, Крычаў... У 1983 годзе слонімцы былі першымі на чэмпіянаце Беларусі класа "Б".

Шмат у чым "Усходу" дапамагаў ДАСААФ. Выдзяляліся сродкі на харчаванне ігракоў, на бензін, на дарогу ў іншыя гарады. Сяргей Ажгірэвіч успамінае, што былі выпадкі, калі матацыклы на спаборніцтвы везлі на машыне, а самі ігракі дабіраліся ў пэўны горад на цягніку. Гульні, як правіла, адбываліся ў суботу або нядзелю, бо кожны з мотабалістаў меў асноўнае месца працы. У Слоніме мотабол любілі. Падчас гульні збіралася шмат людзей, балельшчыкі часта ездзілі са сваёй камандай на выязныя гульні.



За слонімскі "Усход" выступалі такія ігракі, як Уладзімір Гнеўшэў (капітан каманды), Мікалай Ясусейчык (гуляючы трэнер), Юрый Арцюшкевіч (гуляючы трэнер, у лютым 1998-га яго не стала...), Мікалай Шрамета, Уладзімір Барткевіч, Леанід Цвікевіч, Сяргей Ажгірэвіч. Уладзімір Арцюшкевіч пасля службы ў войску застаўся ў Маскве, выступаў за "Металург" з расій-скага горада Віднага і за зборныя СССР і Расіі. З мінулага года Уладзімір Арцюшкевіч працуе трэнерам. Аляксандр Ажгірэвіч з канца 80-х гадоў выступае за ўкраінскую зборную і з'яўляецца пяціразовым чэмпіёнам гэтай краіны.

На пачатку 90-х гадоў з-за эканамічных праблем многія матабольныя каманды спынілі сваё існаванне. Не стала і "Усходу", адзінай у той час матабольнай каманды ў Гродзенскай вобласці...

Гады два назад у Гродне арганізавалася матабольная каманда. Там успомнілі пра слонімцаў, запрашалі іх вярнуцца ў мотабол і выступаць за іх каманду. Здаецца, ніхто з былых матабалістаў "Усходу" не адгукнуўся на гэтую прапанову...

**Сяргей ЁРШ**

**На здымку з архіва Сяргея Ажгірэвіча:** ***каманда "Усход" у Пінску, сярэдзіна 1980-х г.г. Злева направа: Уладзімір Верабʼёў (трэнер), Уладзімір Дамброўскі, Мікалай Яўсейчык, Мікалай Шрамета, Алег Палуносік, Уладзімір Гнеўшэў, Уладзімір Серафімовіч, Леанід Цвікевіч.***

ШАХМАТЫ І ШАШКІ



**Аляксандр Аніська**

***

**Заканчыўся чэмпіянат горада па шашках сярод мужчын.**

За першае месца змагаліся дзесяць слонімскіх шашыстаў. Перамог Аляксандр Аніська. Другое месца заняў Васіль Гарасюк, трэцяе – Канстанцін Белуш.

***

**Прайшло першынства Слоніма па шахматах сярод мужчын.**

У выніку, з дваццаці ўдзельнікаў вызначылася чацвёрка мацнейшых: Станіслаў Альховік (АРЗ), Уладзімір Літвін (АРЗ), Мікалай Раманчук (спецсаўгас "Рышчыцы") і Пётр Бурсевіч (слонімскі мастак). Пераможцам стаў Станіслаў Альховік, які ўпэўнена гуляў усё першынства.

**Станіслаў Альховік**

Адзначым, што Станіславу Альховіку 37 гадоў. Ён працуе рабочым на аўтарамонтным заводзе. У шахматы гуляе больш за 20 гадоў, доўгі час быў інструктарам у гродзенскім шахматным клубе. Апошні раз у чэмпіянаце Слоніма С.Альховік выступаў у канцы 70-х гадоў.

**Сяргей ЁРШ, Мікалай СУПРУН (фота)**